Віктар РЭЧЫЦ

# Венік і Дзяркач

*Байка*

На тэрыторыі каля
шматпавярхоўкі
Праводзіўся суботнік увясну.
Дзяркач пачуў такую навіну
І вырашыў паўдзельнічаць. Як
толькі
Убачыў каля дома Дзеркача,
Кухонны Венік кпіць з яго пачаў:
— І ты — у двор? Стаяў бы ўжо
ў куце,
Хай без цябе спрытнейшы хто мяце.
Бо з недалэнгі што тут
за карысць?
Хіба ж ты можаш прыгажосць
стварыць?
Не здольны ўжо са мной цягацца,
Не для цябе такая праца.
Так што ідзі дамоў, адпачывай.
— Мяне ты спісваць пачакай, —
Дзяркач азваўся па-старэчы.
І апаненту запярэчыў:
— Карысць магу і я прынесці,
Калі пачну дзе-небудзь месці.
Я смецце большае, цяжэйшае
збяру,
Якое ты, шаноўны юны друг,
Сабраць не ў стане
Нават пры жаданні.
Пачула і Мятла размову тую:
— Цябе я, Венік, тут пакрытыкую.
За Дзеркача ты выглядаеш лепш,
Але чаму свой нос дзярэш?
Зусім не знаеш, бачу я, што ён
Быў венікам, як ты, у маладосці.
І што гэта, скажы, за тон?
Цябе ў двары ці крыўдзіў хтосьці?
А ты пасмеў абразіць ветэрана,
Душу яго, відаць, параніў.
***
Таму, хто старасць не шануе,
Жыццё такіх паводзін не даруе.

*г. Івацэвічы.*





Аляксандр ШМІДТ х 2.



Алег КАРПОВІЧ.

# Раптоўны склероз

*Гісторыйка*

— Алё, гэта жыллёва-камунальная служба?

— Так.

— Іван Іванавіч?

— Я вас слухаю!

— Паважаны, мне тэрмінова патрэбна ваша дапамога! Выручайце!

— А хто гэта гаворыць?

— Язэп Дзям'янавіч! Памятаеце: магазін на Першамайскай, загадчык...

— Канешне! Колькі дэфіцытных тавараў я ў вас узяў! Бывала, іншую рэч нідзе ў продажы не адшукаеш, а нейкім цудам яе знаходзілі. Выручалі! Мая цешча таксама заўсёды асабіста да вас, Язэп Дзям'янавіч, звярталася.

— Дарэчы, Іван Іванавіч, а як яе здароўе?

— Дзякую, яна мацуецца, часта на рынак бегае. Там і больш танна прадукты можна купіць, і выбар вялікі.

— Разумею, цяпер я і сам туды хаджу, бо на пенсію выйшаў. Значыць, вы мяне памятаеце?

— Кажаце, на пенсіі? Так-так. Прабачце, але не ведаў ніколі ніякіх Язэпаў Дзям'янавічаў...

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Андрэй СІДАРЭЙКА.



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

# Філалагічныя замалёўкі

Музыка адрознівалася нездаровымі напевамі.

Дарагія цэны.

Чалавек-усюдызнавец.

Знайшлі старадаўнюю сядзібу з цікавай гісторыяй, якая была пабудавана ў XIX стагоддзі.

Мужчына ўпаў у калодзеж. Калі выцягнулі, яго прадалі медыкам.

**Уважліва чытаў перыёдыку Дзмітрый ПЯТРОВІЧ.**




Пётр КОЗІЧ.

# Галкі -«прафесіяналкі»

Вароны, галкі і гракі
Ды галасістыя шпакі
У гурт сабраліся аднойчы,
Спяваць былі даўно ахвочы.
Шпакі тым хорам кіравалі,
Бо лепш за ўсіх яны гучалі.
Вароны «кар-р-р» сваё вялі,
У цэлым, гурт не падвялі.
І жаўтадзюбыя гракі
Былі таксама мастакі:
Без іх залівістага ўкладу
Птушыны хор не меў бы ладу.
І толькі галкі ўсё крычалі,
Спрачаліся, перашкаджалі...
Адна з іх вылучалася,
Бо больш за ўсіх старалася.
Крытыкавала, папраўляла,
Парады розныя давала,
Нібы вялікая артыстка
Або вядучая салістка.
Спяваць, па шчырасці, не ўмела,
Ды з вышыні на ўсіх глядзела.

Бываюць вось такія галкі,
Няма на іх дубовай палкі!
Не трэба вашай дапамогі –
Не лезьце, мілыя, пад ногі!

**Ірына СЯСІЦКАЯ,**
*г. Докшыцы.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Алег ГУЦОЛ.




## Карпаратыў

– Ну, як карпаратыў? У колькі
вы разышліся?
– Што сказаць...
К паўночы разышліся толькі,
Пайшлі ж дадому недзе ў пяць.

## Каб не прастудзіўся

– Арцёмка, ну ты малайчына!
Хто ж спіць у халадцы, хлапчына?
Ў салату твар перакладзі,
Каб лёгкія не застудзіць.

## Група крыві

– Як жонка першая была,
Крыві з мяне ой папіла!
З другою ажаніўся – зноў:
З мяне і гэта смокча кроў.
– Якую групу маеш, Ясік?
– Ну, першую.
– Тады ўсё ясна.
Не дапаможаш тут нічым,
Бо падыходзіць яна ўсім.

## Добрая пасада

– Сусед, ты ўжо пенсіянер?
Не падпрацоўваеш цяпер?
Нуда без справы апануе...
Пасаду мо займеў якую?
– Намеснік я (жыву, бы ў казцы)
Па гаспадарчай, значыць, частцы.
– А хто кіруе? Ці сакрэт?
– Начальнік – жонка,
мой сусед...

## Салата з будучыні

– Афіцыянт! Хачу спытацца.
Салата сённяшняя ў вас?
– О, тут няма чаго баяцца!
Салата – найвышэйшы клас!
Скажу вам па сакрэце нават
болей:
Шчэ і на заўтра пойдзе
для застолля!

## Дапамажы сабе сам

– Я з працы еду, дарагая,
У страўніку аркестр іграе.
Нібы той звер, галодны, Іра!
– А будзеш бутэрброды з сырам?
– Згаджуся нават на кефір!
– Тады купі батон і сыр.

## Надвор'е ў доме

– Пра што гэта з суседкай Таняй
Ты балаболіў да світання?
– Ды пра надвор'е, дарагая...
– Калі яшчэ раз напаткаю,
То штармавое папярэджанне
Цябе чакае замест снедання.

**Мікола КАМАРОЎСКІ,**
*г. Орша.*

А старасць – час жыцця двулікі:
На торце свечкі, быццам пікі.
Не пакаштуеш – ломіць косці! –
Пірог са смакам маладосці.

* * *

З узростам значных менш падзей,
Ды не губляем мы надзей.
Чакаем з братам важнай даты:
Я – пенсіі, а ён – зарплаты.

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*

# «Дантыст»



*Быль*

Забалеў у дзядзькі Кірылы зуб. Што ён толькі ні рабіў: і сала за шчаку клаў, і ватку з адэкалонам прыціскаў, і сто грамаў самагонкі выпіў, але нічога не дапамагло. Усю ноч дзядзька ледзь не хадзіў па сценах і столі, а зранку сабраўся і пабег у лячэбніцу.

Але фельчар, як на тое ліха, у раён паехаў. Гаспадарыць застаўся санітар Мікола. Дзядзька да яго звярнуўся з жалем у голасе:

— Зрабі хоць што-небудзь!..

— Я ж не доктар,— адмахнуўся той.

— Дык хоць вырві, к чорту, гэты зуб! Няма моцы больш трываць, — ледзь не плакаў Кірыла.

Мікола ў рэшце рэшт згадзіўся, а пасля доўга корпаўся ў скрынцы з інструментам. Даставаў і зноў хаваў розныя пінцэцікі і пінцэты, абцугі і абцужкі. Неўзабаве знайшоў неабходныя і загадаў дзядзьку раскрыць рот. Яшчэ нейкі час аглядаў зубы, шукаючы той самы балючы. Убачыў і пачаў рваць. Тузануў раз, другі, трэці... Дзядзька ж толькі роў пры кожнай спробе. Тады Мікола ўпёрся каленам у дзядзькаў жывот і пацягнуў з усяе сілы. Дзядзька нема ўзвыў. Гора-дантыст убачыў, што хоць зуб ён і вырваў, але пры гэтым вывіхнуў хвораму сківіцу набок. Кірыла мог толькі мычаць, бо не атрымоўвалася ні закрыць рот, ні слова прамовіць.

Мікола спужаўся, адклаў інструменты ўбок, дастаў з паліцы даведнік фельчара і пачаў гартаць старонкі. А дзядзька стаў поруч, за плячо санітара тузае, мычыць і на свой раскрыты рот паказвае.Той ад яго адмахнуўся і працягваў глядзець кніжку. Дзядзька яшчэ мацней шкуматае Міколу, тыцкаючы пальцам сабе ў рот. Гэта канчаткова раззлавала санітара, ён развярнуўся ды як дасць з усяго маху Кірылу па той жа сківіцы! Яна шчоўкнула і стала на месца.

Завыванні хворага імгненна прыпыніліся, і ён радасна выгукнуў:

— Так бы адразу! А то мне баліць, а ты знайшоў час кніжкі чытаць!

**Міхась МІРАНОВІЧ,**
*г. Віцебск.*





Аляксандр ШМІДТ.




Алег ГУЦОЛ.



Алег КАРПОВІЧ

# Анекдоты



* * *

Калі не ведаеце, што падарыць жонцы на 8 Сакавіка, – вынесіце, нарэшце, ёлку! Яшчэ паўгода на яе месцы будзе стаяць галінка мімозы...



* * *

На 8 Сакавіка галоўнае не падарунак, а ўвага. Таму ў гэты дзень я ўважліва пераходжу дарогу.



* * *

Кветкі – не самы практычны падарунак на 8 Сакавіка. Пастаяць пару дзён і ў сметнік. Іншая справа свіная галава. Гэта і суп, і халадзец, і проста прыгожа.



**Пераклад з рускай Ганны СІНІЦЫ,**
*г. Мінск.*



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Аляксандр ПЯТРОЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Пётр КОЗІЧ.

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

## Для самай-самай

*Гумарэска*

8 Сакавіка Іван Васільевіч прачнуўся рана, каб паспець збегаць у бліжэйшы кветкавы магазін па букет для каханай жонкі.

Так як ён лічыў сябе мужчынам практычным, то звычайна выбіраў у падарунак для сваёй самай-самай выключна карысныя рэчы: наварочаны прас, пасудамыйную машыну, нешта з мэблі. Але кожны раз так і не мог дагадзіць, бо замест доўгачаканага «Дзякуй!» чуў адно і тое ж: «А дзе кветкі?»

І сёлета ён вырашыў у рэшце рэшт выправіць сваю памылку. «Вось мая красачка здзівіцца, калі прачнецца і ўбачыць у вазе букет», — думаў Іван Васільевіч падчас шпацыру па горадзе.

— Якія кветкі вы хацелі б набыць? — запыталася ў яго сімпатычная прадаўшчыца ў краме.

— Мне б ружы, — адказаў мужчына, бо вырашыў не эканоміць і пачуць ад жонкі не проста «дзякуй», а ўбачыць на яе твары здзіўленне ды задавальненне.

Разлічыўшыся за букет, Іван Васільевіч з прыўзнятым настроем пашыбаваў назад. Па дарозе зазірнуў у бліжэйшы гастраном і набыў торт. Урэшце, якое свята без прысмакаў?

Мужчына ціхенька зайшоў у кватэру, узяў вазу, змясціў у яе букет і паставіў на стол. Каб цалкам здзівіць сваю самую-самую, Іван Васільевіч пагрэў чайнік, разліў па кубках гарбату, парэзаў на кавалачкі торт. Толькі закончыў з падрыхтоўкай, як у дзвярах кухні з'явілася яна, яго самая-самая каханая жонка. Зірнула на стол, і на яе твары з'явілася ўсмешка, а потым ён пачуў доўгачаканае: «Дзякуй!» І нават: «Вельмі прыемна!» Але пасля... Нібы хтосьці абарваў струны ягонай душы. Бо наступныя словы здзівілі:

— А дзе падарунак?

— Дык вось букет. Твае любімыя ружы, — разгубіўся Іван Васільевіч.

— Дарагі, а ты не чуў, што кветкі — гэта не падарунак, а знак увагі. Іх трэба дарыць у дапаўненне да чаго-небудзь, — закаціўшы вочы, патлумачыла жонка.

— Нічога сабе дадатак... Каштуе быццам новая вуда, — прамармытаў сабе пад нос мужчына, а потым гучней дадаў: — Не ведаў я гэтага. Тады сама сабе падарунак выбірай.

— Які ты ў мяне цудоўны! Зараз я збяруся і пойдзем з табой у ювелірную краму. Там такія завушніцы шыкоўныя, — падляцела да мужа жонка і пацалавала ў шчаку.

— Пайшлі. Што ж толькі не купіш для самай-самай...

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*



**Ганад ЧАРКАЗЯН,**

# Як дзядзька Вася цвік забіваў



*Фельетон*

Калі дзядзька Вася ўладкаваўся ў Навукова-даследчы інстытут, яму не пашанцавала з самага першага дня. Тут усё пярэчыла таму, да чаго ён так прывык у жыцці. Спецыяльнасць у дзядзькі Васі была самая звычайная – цясляр, але вопыт быў вялікі. Аднак у НДІ ён трапіў упершыню.

Не паспеў новы супрацоўнік агледзецца, як яго выклікаў да сябе загадчык гаспадаркі Хітрык і адразу даў даручэнне: прайсці па ўсіх аддзелах і праверыць, што дзе патрабуе замены, уважліва агледзець замкі, вокны і мэблю. Цясляр заданне зразумеў і пайшоў па калідоры.

На першых дзвярах вісела шыльдачка «Аддзел па распрацоўцы інструкцый для правільнага выбару становішча цвіка перад ударам. Загадчык аддзела Сідараў М. К.». Дзядзька Вася прачытаў, праверыў замкі і пайшоў далей.

На другіх дзвярах значылася: «Аддзел па разліку нагрузак на плешку цвіка. Загадчык аддзела Сісюкін В. І.». Тут цясляр затрымаўся даўжэй. Паправіў шыльдачку на дзвярах, падмацаваў завесы, падрамантаваў нават стол гаспадара кабінета.

Далей быў «Аддзел па распрацоўцы рэкамендацыі выбару становішча рукі пры ўдары малатком па цвіку. Загадчык Шурупаў М. Л.». Дзядзька Вася толькі дзівіўся з такіх незвычайных надпісаў.

Наступным размяшчаўся «Аддзел па разліку сярэдніх нагрузак на далоні рабочага падчас забіцця цвіка малатком. Загадчык аддзела прафесар Хімічкін Л. К.». І тут дзядзька Вася зразумеў, што ў гэтым НДІ ўсё круціцца вакол малатка і цвіка.

Раптоўна каля пакоя «Аддзел па разліку страты энергіі пры забіцці цвіка. Загадчык прафесар Уткін Р. М.» яго прыпыніў інтэлігентнага выгляду чалавек і ўладна прамовіў:

– Вы не маглі б праверыць замок, падагнаць дзверы пасля працы, а то гэта ўплывае на работу супрацоўнікаў аддзела. Гэта адцягвае іх увагу.

– Не, не магу! – адказаў дзядзька Вася.

– Чаму? – здзівіўся прафесар Уткін.

– Таму што ўсе яны разам з вамі, паважаны, займаюцца глупствам. Каму трэба ведаць, як трымаць цвік пры ўдары, калі няма гэтага цвіка, калі няма малатка? Каму трэба ведаць, колькі патрачана энергіі падчас работы, якая не выконвалася? Я ж усё жыццё цесляром працую, можна сказаць, ужо акадэмік у гэтай справе...

– Акадэмік? – не вытрымаўшы, перапыніў дзядзьку Васю прафесар Уткін. – Дык вы вучоны ці цясляр?

Мужчына толькі зараз заўважыў злосны, нават варожы позірк прафесара. Такія твары бываюць у сквапных гаспадароў, калі ў іх уладанні пранікаюць чужыя.

– Я гэтага так не пакіну, – грозна прамовіў Уткін і пайшоў прэч.

Пасля абеду ўвесь НДІ гудзеў, як разварушаны вулей. Усе ішлі паглядзець на дзядзьку Васю – цесляра і акадэміка. Але той не прывык да такіх адносін у дачыненні да сябе. Унутры яго ўсё кіпела і бурліла.

– Не лезь не ў свае справы, – параіў яму гаспадарнік Хітрык.

– Як так? Мяне пытаюць – я адказваю. Але добра, больш не буду... – узбуджана прамовіў цясляр.






Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ х 2.

А потым ён моўчкі дастаў са скрынкі цвік «стодваццатку», узяў малаток і без усялякае падрыхтоўкі загнаў яго ў сцяну.

— Няўжо вось для гэтага трэба ўтрымліваць такі вялізны штат, столькі народу? — абурана сказаў дзядзька Вася.

Замітусіліся супрацоўнікі, спрабавалі выцягнуць цвік, але безвынікова. А побач з дзядзькам Васем ужо стаяў дырэктар НДІ.

— Трэба стварыць аддзел па выцягванні цвікоў са сцяны, — хіхікнуў дзядзька Вася.

— Трэба, — сур'ёзна згадзіўся дырэктар, — я даўно прапаноўваў...

Тут чатыры мужчыны, усе ў цяжкіх акулярах, пры гальштуках, схапілі цесляра за рукі і ногі і вынеслі за дзверы НДІ. У калідоры ж, каля таго самага цвіка, сабраўся цэлы натоўп. Супрацоўнікі рабілі нейкія замеры, запісвалі іх вынікі.

Тут жа дырэктар распарадзіўся падрыхтаваць загад аб стварэнні новага аддзела. Але ўсяго гэтага наш дзядзька Вася не чуў і не бачыў. Ён ужо быў у пошуках новай працы.

Гісторыя здарылася даўно. Зараз той НДІ пераехаў ужо ў новы высотны будынак. У дванаццаціпавярховым філіяле размясціліся новыя кабінеты, абазначаныя шыльдачкамі. Напрыклад, «Аддзел кувалды» вось ужо дзесяцігоддзе запар з'яўляецца пераможцам сярод усіх філіялаў НДІ. Другое месца ўслед за ім трымае «Аддзел пошуку шляхоў надзейнасці сучасных скрэпак». З'явіліся новыя спецыялісты.

А дзядзька Вася даўно на пенсіі. Ён і расказаў мне гэтую гісторыю. А вам, паважаныя чытачы, сустракаліся такія НДІ?

**Пераклад з рускай**
**Казіміра КАМЕЙШЫ.**




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Аляксандр ПЯТРОЎ.











Алег ПАПОЎ х 4.

# ПРЫПЕЎКІ

Падбівала я падушкі,
Аж ляцела пер'е, пух.
Калі маеш дзве дачушкі,
То й працуй тады за дзвюх!

* * *

Гоніць Толік самагонку,
Запрашае разам піць.
Пашкадуй, сусед, пячонку,
Калі хочаш ты пажыць!

* * *

Далікатны ў цешчы зяць:
Не арэ, не косіць.
Праўда, любіць сала ўзяць –
Сам бярэ, не просіць.

* * *

Як пайду на дыскатэку –
Кожны хлопец п'яны.
Лепш схаджу ў бібліятэку
Пачытаць раманы.

* * *

Яблык на Яніну ўпаў –
Сапсаваў прычоску.
Ясік лысіну часаў –
Паламаў расчоску.

* * *

З татам добра мне жылося,
Без турботаў, без клапот.
А вось замужам прыйшлося
Падпіраць рыдлёўкай плот.

* * *

Мяне мілы цалаваў
Ды правёў да ганка.
Падарыць паабяцаў
Дзірку з абаранка.

* * *

Падрастаюць агурочкі,
Спеюць памідоры.
На рабоце зяць павольны,
За сталом жа – скоры.

**Праспявала**
**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*




# Гумарыст не з палахлівых



*Нэля Іванаўна ТУЛУПАВА (1938–2001) была выключна арыгінальнай жанчынай і ў творчасці, і ў жыцці. Узгадаем хаця б той факт, што ў літаратуру яна прыйшла з медыцыны: працавала акушэркай на Віцебшчыне пасля таго, як скончыла Гомельскае медвучылішча. Ды і мастацтвам слова спачатку авалодвала не як пісьменніца, а як дыктарка тэлебачання... Карацей кажучы, шукала сябе будучы рэдактар аддзела літаратуры часопіса «Вожык» доўга. А калі ўрэшце знайшла – пачала пісаць вельмі ж трапныя і дасціпныя байкі – ледзьве не атрымала на арэхі ад «герояў», якія пазналі сябе ў гэтых творах. Аднак гэта паэтку не спалохала, і ў хуткім часе свет пабачылі гумарыстычныя зборнікі «Як павезлі мяне сватаць» (1987) і «Скажыце ўсім» (1988).*

*У творчай скарбонцы пісьменніцы – і выдатная лірыка, і цікавая проза. Сёння прапануем узгадаць некаторыя гумарыстычныя вершы Нэлі Іванаўны, якой сёлета споўнілася б 80 гадоў.*

**Нэля ТУЛУПАВА**

## Мухі ў носе

У суседачкі Аўдосі
Завяліся мухі ў носе.
Вось дык ліха-ліханька,
Ходзіць баба, чмыхае:
То не так я паглядзела,
То скакала я ў нядзелю.
Спапяляю я вачамі
І цалую я начамі
Сына яе, Савачку...
Ганіць, ганіць Клавачку.

У суседачкі Аўдосі
Завяліся мухі ў носе.
Будзе дзьмуцца дзень пры дні –
Завядуцца авадні.



## Смаляныя лаўкі

У маёй каханкі
Смаляныя лаўкі.
Хлопцы да тых лавак
Быццам мухі ліпнуць.
Гаворак не слухаю,
Вачамі не лыпаю,
Прызначу спатканне ёй
Пад зялёнай ліпаю.
Там вісіць калода,
Поўна ў сотах мёду.
Буду частаваць,
Пчолкай называць.

Вечар быў харошы,
Зорачкі-гарошыны
Неба скрозь усыпалі...
Селі мы пад ліпаю.

– Дзе твой пачастунак? –
Дзівіцца каханка.
Я ў адказ жартую:
– Дачакаем ранку!
Пчолкі ўсе паснулі,
Люлі, люлі, люлі.

Я ёй пра спякоту,
А яна пра лёд.
Я ёй пра гаркоту,
А яна пра мёд.

А дзе ж тая ночка?
Рой гудзе пад ліпай.
Цмокнуў раз у шчочку,
І навек прыліпнуў.

Смаляныя лаўкі,
Смаляная вусціш.
У маёй каханкі
Мядовыя вусны.



## Цур

Цур мяне ад хіжых вачэй,
Хай і ў сне іх сабе не прысню.
Цур ад тых, хто праз век валачэ
За сабой, нібы хвост, хлусню.

Ад таго, хто дае «здароў»,
Ды змаўчыць, як пачне хто цкаваць.
І ад тых гаваркіх сяброў –
Мякка сцелюць, ды мулка спаць.

Самі плёткі падпаляць шнур
І счакаюць, пакуль рване.
Вось ад гэткіх, мой лёсе, – цур!
Хай іх ласка мяне міне.




**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Ноч са снегам

*Той першы снег прыйшоў, як муж чужы,*
*Апоўначы, употайкі, нясмела.*

*Зінаіда ДУДЗЮК*

Той першы снег прыйшоў нясмела,
Ступіў у дом мой асцярожна.
О, як мне ў тую ноч карцела!
А што карцела — знае кожны.

Я не цягнула час, як гуму,
Умомант ложак разаслала,
Каб не паспеў ён перадумаць —
Ці ж дзеля гэтага чакала?

Як цалаваў мяне ён гожа!
Як абдымаў мой станік гонкі!
Уласны муж наўрад так зможа,
Хіба чужы, што збег ад жонкі.

Я б век была яго каханкай
Без лішніх слоў, без марнай стомы...
Ды толькі снег растаў уранку,
Як муж чужы, што збег дадому.

## Нябесны раўнівец

*Прарэзаўся ў месяца зуб залаты,*
*Засмучаны тым, што са мной ты.*

*Алесь ПІСАРЫК*

Сядзелі пад дубам, што мкнуў угару,
Цябе цалаваў палка ў вусны.
А месяц двухрогі — ото ж і хітрун! —
Глядзеў на нас зверху спакусна.

Пра што ён так думаў, начны жыццялюб,
Уцёкшы ад жоначкі-хмары?
Няйначай, тачыў на мяне зверху зуб
Ці рогі наставіць мне марыў?

**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ**

## Дзіўная хвароба

*Восень коней прыспешвае,*
*Затрымацца б на міг...*
*Ты ратуешся вершамі*
*І хварэеш на іх.*

*Аляксандр БЫКАЎ*

Калі прастуды ўсе сімптомы
І кашаль душыць па начах,
Тады застацца лепей дома,
Каб арганізм твой не зачах.

Таблеткі, мазі і мікстуры,
Вядома, вылечаць цябе,
Ды лепш заняцца фізкультурай,
Не кіснуць у сваёй журбе.

А для паэта сродак лепшы —
Вам гэта скажа ўрач любы —
Лірычным ратавацца вершам
Або паэмай ад журбы.




Алег ГУЦОЛ.




Аляксандр ПЯТРОЎ.




Сатыра заўсёды — палка з двума канцамі.

* * *

У кожным дарослым сядзіць дзіця, а дзеці любяць, калі іх хваляць.

* * *

Сказаць жанчыне, што яна не падобная ні на адну жанчыну, — камплімент; сказаць, што яна не падобная на жанчыну, — абраза.

* * *

З узростам мужчына становіцца больш сумленным: ва ўсялякім разе, яго клятвы ў вернасці гучаць больш шчыра.

* * *

Калі жанчына жартуе над сабой, для мужчыны бяспечней устрымацца ад смеху.

* * *

Жанчына і мужчына — гэта дзве палавінкі, няздольныя жыць адна без другой, асабліва другая.

**Рафат ШАКІР-АЛІЕЎ (Аўстралія).**
**На беларускую мову пераклаў Міхась СЛІВА.**




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.



Аляксандр ШМІДТ.

## Вайсковыя байкі

### Занадта паслужлівы

Заходзіць аднойчы генерал у казарму і бачыць, як прапаршчык радавога прымушае адціскацца: «Легчы! Устаць! Легчы! Устаць!»

— І за што ты яго так? — пытаецца генерал у прапаршчыка.

— А гэта, таварыш генерал, — адказвае той, — залішне паслужлівы дурань.

— Ну і навошта ты яго, паслужлівага, ды адціскацца? Спыніць! — аддае каманду генерал і кажа радавому: — Прынясі мне лепей крыху гарбаты.

Той цікавіцца:

— Вам з цукрам ці без?

— З, — адказвае генерал.

— Заварку моцную рабіць?

— Не вельмі.

— А сподак трэба?

— Так!

— Лыжка?

— Патрэбна!

— Якая — гарбатная або дэсертная?

— Легчы! Устаць! Легчы! Устаць!

### Баявыя раненні

Салдат прыходзіць у медпункт.

— Так, малады чалавек, зараз я буду ставіць вам прышчэпку, — кажа ўрач і робіць укол.

— Вой! — ускрыквае салдат.

— Не атрымалася, паспрабуем вось у гэтым месцы...

— Ай!

Доктар некалькі разоў запар спрабуе ўвесці лекі. Нарэшце ў яго гэта атрымоўваецца.

— Усё! Можаце ісці.

Салдат сядзіць на месцы.

— Я ж сказаў, усё! Чаго вы чакаеце?

— Медаль за баявыя раненні!

### Праверка

У адну вайсковую часць прыязджае генерал і паведамляе, што праз дзве гадзіны прыбудзе праверка. Камандзір пачынае рыхтавацца. І вось, ён ужо строіць салдат перад правяраючымі. Тыя пытаюцца:

— Таварыш камандзір, вы добра ведаеце сваіх байцоў?

— Так.

— Дакажыце.

— Тыкніце пальцам на любога з іх, а я скажу, у анучах ён ці ў шкарпэтках.

Правяраючы паказвае на салдата, і камандзір кажа:

— У шкарпэтках.

Салдат скідае боты, а там і сапраўды шкарпэткі. Так правяраюць яшчэ некалькіх маладых байцоў, і камандзір ні разу не памыляецца. Праверка здзівілася. Тады правяраючыя кажуць:

— Чулі мы, што тут дрэнна кормяць. Давайце паглядзім!

Заходзяць у сталовую, а там на абед кожнаму ў суп па палове курыцы кладуць. У гасцей ажно вочы на лоб палезлі.

Пайшлі на заняткі. Камандзір пачаў правяраць тэорыю ў салдат. Пытаецца, што такое строй, — лес рук. Першы баец адказвае ідэальна, другі, трэці. Камісія з'язджае, а генерал пытаецца камандзіра часці, як яму ўдалося з усім справіцца.

— Элементарна! — усміхнуўся той. — Сказаў усім на правую нагу надзець шкарпэтку, а левую абгарнуць анучай. Што я называю, тое салдат і паказвае. У сталовай палову курыцы да апалоніка загадаў прывязаць. А на тэорыі хто падымаў правую руку, той ведаў, хто левую — той не, і я бачыў, каго мне спытаць.




Аляксандр ПЯТРОЎ.

### Салдат стаіць

Стаіць салдат. Праходзіць міма маёр і кажа:

— Ну што, салдат, стаіш?

— Стаю!

— А ты сёння снедаў?

— Не.

— Будзе ісці падпалкоўнік, скажаш, што снедаў.

— Так точна, скажу!

Праходзіць падпалкоўнік:

— Стаіш, салдат?

— Стаю.
— А ты сёння снедаў?
— Снедаў.
— А абедаў?
— Не, не абедаў.
— Будзе ісці палкоўнік, скажаш, што абедаў.
— Так точна, скажу!
Праходзіць палкоўнік:
— Стаіш, салдат?
— Стаю.
— А ты сёння снедаў?
— Снедаў.
— А абедаў?
— Абедаў.
— А вячэраў?
— Не, не вячэраў.
— Будзе ісці генерал, скажаш, што вячэраў.
— Так точна, скажу!
Нарэшце ідзе генерал:
— Ну што, салдат, стаіш?
— А што мне рабіць, таварыш генерал. Наеўся ды стаю сабе!

## Тачка

По тэрыторыі вайсковай часці імчыцца прапаршчык з тачкай, поўнай смецця. Яго спыняе капітан:

— Стой! Што скраў?
— Нічога.
— Не веру, — капітан запускае рукі ў смецце і мацае там. Нічога не знайшоўшы, адпускае прапаршчыка. Той нясецца далей. Насустрач яму маёр:
— Стой! Што скраў?
— Нічога.
— Не веру, — маёр запускае рукі ў смецце і мацае там, але таксама нічога не знаходзіць. Прапаршчык імчыцца далей. Насустрач яму палкоўнік:
— Стой! Што скраў?
— Нічога.
— Я табе дам «нічога», — палкоўнік запускае рукі ў тачку і мацае там, але таксама нічога не знаходзіць. Нарэшце прапаршчык выбягае за вароты часці, азіраецца, вывальвае з тачкі смецце і злосна бурчыць:
— «Што скраў, што скраў»... Тачку скраў!

**Даслала Ганна СІНІЦА,**
*г. Мінск.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

## Прэмія

*Гісторыйка*

Міхасю пашчасціла: кіраўніцтва адзначыла яго прэміяй. Ды такой добрай, што за яе можна было ажыццявіць даўнія мары: набыць рыбалоўныя прынады, адрамантаваць машыну, абнавіць гардэроб і купіць новую парфуму.

Дома Міхась распавёў пра прэмію і свае планы жонцы. Тая нічога не сказала, але як толькі настаў выхадныя, выцягнула Міхася на кірмаш.

Жанчына прымярала сукенкі, чаравічкі, майкі, блузкі, капялюшыкі, акуляры. А Міхась... даставаў грошы і разлічваўся. Калі прэмія раптоўна скончылася, жонка нарэшце спынілася.

— Пэўна, хопіць, — сказала яна задаволена. — Ну, хіба я не прыгажуня і разумніца ў цябе?

— Канешне, менавіта такая, — уздыхнуўшы, адказаў Міхась.

На гэтыя словы жонка толькі пасміхнулася.

Праз тыдзень за вячэрай Міхась з апетытам еў катлеты з пюрэ і салатай. Ён ужо і забыўся на свае мары, калі жонка раптоўна запытала:

— У цябе якія планы?

— Здаецца, няма ніякіх, — ажно спужаўся муж.

— Тады заўтра едзем на базар спраўджваць твае мары. Мне таксама далі прэмію, таму гэтым разам разлічваюся я, — адрэзала жонка.

— Добра! — абрадаваўся мужчына.

А сам падумаў: «Яна і сапраўды ў мяне самая прыгожая і разумная!»

**Андрэй ПЯТРЭНКА,**
*г. Рэчыца.*




## Ці ёсць карысць ад дабрыні?

*Фельетон*

Раіса Іванаўна была добрай і чуллівай жанчынай. Усе родныя і знаёмыя здзіўляліся яе святой веры, што толькі яна можа дапамагчы жабракам ці людзям, якія стаяць з шыльдачкамі «Збіраем грошы на лячэнне хворага». Раісу Іванаўну не раз падманвалі, але тая толькі рукамі махала і прыгаворвала: «Ат, гэта ўсё выпадкова! Ну, падмануў адзін, а другім жа я падставіла сваё плячо ў цяжкі час. Вось і мне дабро вернецца іншым разам».

Неяк Раіса Іванаўна зайшла ў царкву. Там незнарок пачула словы жанчыны, якая плакала і прасіла ў Бога дапамогі. Тапталася дабрачка каля яе хвілін дзесяць, у рэшце рэшт не вытрымала і запытала:

— Што ў вас здарылася, даражэнькая?

— Ды з мужам развялася. А ён узяў ды прагнаў мяне з двума дзецьмі на вуліцу. Не ведаю, што зараз рабіць! — галасіла жанчына.

Як магла Раіса Іванаўна не дапамагчы чалавеку ў такім цяжкім становішчы? Яна ўздыхнула і з усмешкай прамовіла:

— Як цябе зваць, гаротніца?

— Анфіса, а дзетак Сярожка і Алачка... — хліпаючы носам, адказала жанчына.

— А мяне Раіса Іванаўна. Мяркую, што змагу дапамагчы табе. Мой брат — дурань, трапіў у турму па глупстве. Яго кватэра зараз стаіць пустая. Магу дазволіць табе без аплаты пражыць там тры месяцы. Вырашай праблемы, часу дастаткова.

Анфіса кінулася ёй на шыю:

— Дзякую, вы нават не ўяўляеце, што зараз для мяне робіце! За гэты час я вырашу ўсе цяжкасці з жыллёвай плошчай!

Так і пасялілася Анфіса ў кватэры брата Раісы Іванаўны. Прайшлі тры месяцы — жанчына папрасілася крыху пабыць у жыллі. Так мінуў адзін, другі месяц. Неўзабаве праляцела паўтара года.

— Слухай, можа ты нарэшце пакінеш кватэру, мы ж так не дамаўляліся... — у чарговы раз прасіла Раіса Іванаўна.

— А вам што, шкада? Усё роўна тут ніхто не жыве. Таму нікуды я не з'еду! — агрызнулася Анфіса і ляснула дзвярыма.

Дабрачка была вымушана звярнуцца да ўчастковага. І толькі пасля прафілактычнай размовы з Анфісай тая пакінула кватэру...

Дарэчы, такая ж гісторыя адбылася і ў рэальным жыцці з адной мінчанкай. Яна таксама з-за сваёй чуллівай натуры была вымушана звярнуцца па дапамогу ў міліцыю.

Мараль вельмі простая: быць добрым — гэта карысна, але не трэба дазваляць садзіцца сабе на шыю.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Алег ГУЦОЛ.




— Цётачка, у мяне тут адзін квіток лішні аказаўся ў моладзевы тэатр. Хочаш разам паедзем? Наш калектыў нават аўтобус арандаваў, — з такімі словамі звярнулася пляменніца Нюся да сваёй цёткі Аглаі.

— А што там паказваць будуць, якая пастаноўка? — пацікавілася тая.

— Ды якая розніца: білет для цябе бясплатны, праезд таксама. Ад дома забяруць і прывязуць. Зменіш абстаноўку, а то сядзіш увесь час у хаце каля тэлевізара, — угаворвала Нюся.

— Твая праўда, пляменніца! Я і сапраўды ўжо мохам абрасла тут, — пагадзілася старая.

Напярэдадні паходу ў тэатр Аглая ўзялася наводзіць марафет. Прыняла душ, пафарбавала хной валасы, апранулася. Паглядзелася ў люстэрка і прамовіла: «Ох, і памаладзела! Зноў прыгажуняй стала!»

Неўзабаве прыйшоў час ехаць у тэатр. Усю дарогу цётка Аглая не знаходзіла сабе месца і нервавалася. Але як толькі апынулася ў зале, адразу ж супакоілася. Крэслы аказаліся збоку каля сцяны. Жанчына зручна ўселася, і так ёй стала ўтульна, быццам у калысцы.

І вось пачалася пастаноўка. Цётка Аглая дрэнна чула, што гаварылі акцёры, таму амаль адразу страціла нітку апавядання, затое яе слых добра ўлоўліваў музычнае суправаджэнне. Яно было такое задушэўнае і так закалыхвала, што жанчына не стала працівіцца прыродзе і хутка заснула. Раз-пораз старую ўбок штурхала пляменніца, каб перарваць храпенне. Тая на імгненне прачыналася, але праз пяць хвілін зноў аказвалася ў абдымках Марфея.

Праз нейкі час спектакль скончыўся. Гледачы пачалі падымацца з месцаў. Аглая ж, пазяхаючы, таксама ўсхапілася з крэсла.

Ужо дома Нюся пачала выказваць цётцы прэтэнзіі. Маўляў, раз тая праспала ўвесь спектакль, то больш пляменніца не будзе запрашаць яе ў тэатр.

— Не, мая даражэнькая, наадварот, не забывай браць з сабой на пастаноўкі, бо мне вельмі спадабалася гэтая паездка, — пачала прасіць старая.

— Чым гэта? — здзівілася Нюся. — Ты ж усё праспала!

— Крэсламі мякенькімі, музыкай пявучай, людзьмі прыбранымі. Пад усё гэта я так соладка спала, як у маладосці!

Вочы жанчыны свяціліся шчасцем. Нюся ж усміхнулася і сказала:

— Добра, цётка, толькі паабяцай, што будзеш менш храпці, а то ж могуць і выгнаць. Тады ні спектакля не паглядзім, ні адпачнём як трэба.

— А ты штурхай мяне часцей, — засмяялася старая.

**Раіса ДЗЕЙКУН,**
*г. Гомель.*




Алег ПАПОЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




## Сваякі

Муж і жонка едуць на машыне і сварацца. Каля адной з вёсак бачаць, як бегаюць дзве свінні.

Жонка:

— Вунь, глядзі, тваe сваякі!

Муж:

— Цесць ці цешча?

## Хто пакрыўдзіў?

Раніца, а палова пятай. Тэлефонны званок:

— Скажыце, гэта таварыства па ахове жывёл?

— Можа, і так! Ну што, хто цябе, баран, у такую рань пакрыўдзіў?!

## Дрэнная навіна

Першакласніца:

— Лета заканчваецца, пачынаецца школа. Адна навіна горшая за другую...

## Дзе таннейшы тавар?

— Рабіновіч, вось вы скажыце, у каго тавар таннейшы: у вытворцы ці ў гандляра?

— Паслухайце, што я вам скажу: самы недарагі тавар заўсёды ў вартаўніка...

## Добрыя пажаданні

Сёння дала пяць рублёў на гарэлку суседу. Столькі добрых пажаданняў я нават у свой дзень нараджэння не чула.

## Нарыхтоўкі

— Жонка вырашыла грыбамі заняцца. Назбірала, насаліла, разаслала родзічам.

— І што тыя?

— Няма цяпер у нас родзічаў...

## Мяне там не было!

З размовы двух сяброў:

— Алё, Сяргей? У мяне жонка цяжарная!

— А чаго ты мне тэлефануеш? Я ў той дзень у горадзе не быў!

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*




Алег ГУЦОЛ.

# Анекдоты





**Сяргей ЛАПЦЁНАК**

23 лютага мужчыны напіваюцца і тэлефануюць сваім былым... камандзірам.



* * *

Жонка – мужу: «Мілы! Мой падарунак табе на Дзень абаронцаў Айчыны – магчымасць не дарыць мне нічога на 8 Сакавіка!»



* * *

– Дарагі, а давай згуляем вяселле 23 лютага!

– Ты хочаш сапсаваць мне свята?



* * *

З размовы сябровак.

– Ты чаму такая злосная? Што здарылася?

– Падарыла мужу на 23 лютага набор рыбалоўных блешань.

– Ну, усё правільна. Ён у цябе ўжо 10 гадоў кожныя выходныя на рыбалку ездзіць. Што не так?

– Ды муж іх у руках пакруціў, а потым спытаў: «А што гэта такое?»

* * *

23 лютага жонка збірае мужа на працу і прыгаворвае:

– Жанчыны будуць віншаваць – не цалуйся! Будзеш цалавацца – мне не прызнавайся! Прызнаешся – не крыўдуй!

* * *

Перад 8 Сакавіка муж з жонкай паехалі ў магазін і сярод іншых пакупак набылі набор цукерак. Вечарам перад святам далі яго сыну-старшакласніку з сабой у школу, каб павіншаваў каго-небудзь.

Вечарам пытаюцца:

– Як прайшло свята?

– Было крута!

– І каго ты павіншаваў?

– Хлопцаў сваіх. Мы ўчатырох селі ў сталоўцы і з'елі гэтыя цукеркі самі. Так смачна было. Цудоўнае свята!

**Пераклад Ганны СІНІЦЫ,**
*г. Мінск.*

## Вясковае каханне

Ты мяне прыйшла праведаць,
Я цябе чакаў, вядома,
Ды найперш рашыў паснедаць,
Яблык з'еў – набіў аскому.

Ты мяне ўзяла за рукі,
Я цябе абняў за плечы.
Ах, якія гэта ж мукі
Так стаяць... ля палкай печы!

Ты з мяне зняла ватоўку,
Я з цябе сцягнуў хусцінку...
Нам адразу стала лоўка
І цяплютка пад прасцінкай.

Ты мяне кахала шчыра,
Я цябе любіў таксама...
Адляцелі птушкі ў вырай –
І з каханнем гэтаксама.

Ты мяне даўно забыла,
Я ж цябе дагэтуль помню –
Як адзенне ў ночвах мыла...
Згаслі ўшчэнт кахання промні!

**Генрых ТАРАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Андрэй СІДАРЭЙКА.

## Мёртвыя душы

Калі б Чычыкаў апынуўся ў цяперашнім часе, то яму б тут, безумоўна, спадабалася. Герой рамана Гогаля быў бы шчаслівы, што справа яго не загінула і з'явіліся шчырыя паслядоўнікі, якія збіраюць «мёртвыя душы».

Так, адна жанчына працавала загадчыцай інтэрната будаўнічага прадпрыемства Фрунзенскага раёна ў Мінску. З кастрычніка 2010 па лістапад 2017 года яна фіктыўна ўладкавала на працу мужчыну на пасаду тэхнічнага персаналу. За сем гадоў махінатарка паклала ў сваю кішэнь больш за 18 тысяч рублёў.

Устаноўлена таксама, што са студзеня 2012 па ліпень 2017 года ў гэтым самым інтэрнаце жыла яшчэ адна «мёртвая душа». Агульная заработная плата, налічаная неіснуючай супрацоўніцы, склала 15 тысяч рублёў.

Але нядаўна паслядоўніцу Чычыкава затрымалі. Узбуджана крымінальная справа. Хто ведае, якую літаратурную злачынную сістэму выберуць махінатары ў наступны раз? І як хутка трапяць за краты?..

## Майстэрства злодзея

Стабільнасць — прыкмета майстэрства. Такі прынцып можна прымяніць да розных сфер дзейнасці чалавека. Гэта адносіцца да спартсменаў, рабочых на заводах, вадзіцеляў і прадстаўнікоў іншых прафесій. Але мала хто ведае, што сярод злодзеяў таксама ёсць сапраўдныя майстры, якія адрозніваюцца сваёй стабільнасцю.

Напрыклад, адзін 24-гадовы мазыранін, калі выйшаў з турмы, вырашыў выпіць з сябрамі гарэлкі. Хутка гаручае скончылася, і ён накіраваўся ў краму па дабаўку. Але там вырашыў, што навошта плаціць за бутэлькі, калі можна іх украсці. Ягоны нядобры намер заўважыў адміністратар і папрасіў прайсці ў службовае памяшканне. Хлопец жа палез у бойку. Хутка з'явіліся супрацоўнікі міліцыі і затрымалі дэбашыра.

Такім чынам, у мазыраніна будзе ўжо дзясятая судзімасць. Такой стабільнасці можа пазайздросціць любы майстра!




## Непрыемны сюрпрыз

Нечаканасці могуць напаткаць нас за любым вуглом. Раптам сустрэнецца стары сябра, якога вы даўно не бачылі, альбо прыйдзе новае каханне ці матэрыяльны падарунак. Вось толькі дадзім параду: заўсёды з асцярогай стаўцеся да такіх сюрпрызаў.

Жанчына прагульвалася па адным сталічным гандлёвым цэнтры. Убачыла, што пад нагамі валяюцца грошы, і пачала збіраць такі раптоўны падарунак нябёсаў. Потым яна прысела на лавачку, пералічыла купюры — 20 долараў і 25 беларускіх рублёў. І адразу ж вырашыла патраціць іх на сябе любімую.

Вось толькі такі сюрпрыз абярнуўся непрыемнасцю, бо гэтыя грошы належалі мужчыну, які адразу пасля страты купюр напісаў заяву ў міліцыю. А так як жанчына не паспрабавала знайсці іх уладальніка, то ўсе яе дзеянні прыраўноўваюцца да крадзяжу. Таму будзьце ўважлівыя, калі на вас з-за вугла выскачыць такая ўдача, лепш дзесяць разоў падумайце, перад тым як прымаць яе за нешта звычайнае.



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.









*Прывітанне, дружа Вожык!*

Я заўсёды ведала, што твае браты вельмі працавітыя. Ты прыносіш усмешкі сваім чытачам, а вось салігорскі Вожык займаецца дастаўкай ежы.

Ёсць нават верш адпаведны ў той мясцовасці:

## Вожык па-салігорску

Сілкуемся з «Вожыкам»
Ежай цудоўнай,
Патэлефануйце, і ўсё будзе добра.
Затым у Белпошту яшчэ завітайце,
Часопіс ёсць «Вожык», яго пагартайце
За кубачкам кавы, магчыма, гарбаты...
Хто «Вожыку» дзынькне,
Даставіць да хаты.
Ад «Вожыка» ежа – сапраўднае свята.
І год будзе шчыры, ды на ўдачу багаты.

**Алена РАЗУМОЎСКАЯ,**
*г. Салігорск.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.







Аляксандр КАРШАКЕВІЧ x 3.

# На героя і слава бяжыць

*Крыжаванка*



**Па гарызанталі: 2**. Чым мацнейшая ..., тым лягчэйшая служба *(прыказка)*. **6.** ... без палкаводца, што тыгр без галавы *(прыказка)*. **8.** ... не таракан, тапкам не заб'еш *(прыказка)*. **9.** Служы не за страх, а за ... *(прыказка)*. **12.** На героя і ... бяжыць *(прыказка)*. **13.** «Наша ... . \\ Эх, пяхота!» *З салдацкай страявой песні.* **14.** Левы ці правы край фронту, шарэнгі. **15.** Добрым людзям – мір, а шаленцам – галавой у ... *(прыказка)*. **16.** «..., як і соль, трэба ўжываць памяркоўна» (*выказванне Піфагора).* **17.** «І дарослыя, і дзеці \\ Віншаваннем сёння рады, \\ Бо ў дзень гэты, дваццаць трэці, \\ ... ўсім прыносіць радасць» *(З верша А. Зэкава «Мужчынскае свята»)*. **18.** Верш, напісаны ва ўрачыстым стылі ў гонар якой-небудзь значнай падзеі ці асобы. **20.** У баі загад – святы ..., даражэйшы жыцця ён *(прыказка)*. **22.** Для салдата што ні куст, то ... *(прыказка)*. **24.** Горад у Эстоніі. **25.** Для смелага салдата і ... – граната *(прыказка)*. **26.** Не губляй адвагу – ... ні шагу *(прыказка)*. **27.** Куля сцеражэ, ды ... зберажэ *(прыказка)*. **28.** Смела ідзі ў бой – ... за табой *(прыказка).*

**Па вертыкалі: 1.** Імклівы рух войск на праціўніка. **3.** Майстар, які шые раменную вупраж. **4.** Шкляная або бляшаная пасудзіна. **5.** Частка якой-небудзь машыны. **7.** Не пахмурна, а ... . **8.** Прадпрыемства для будоўлі і рамонту суднаў. **10.** Навука аб законах руху снарадаў. **11.** Камандуючы арміяй. **17.** Перамяшчэнне па чым-небудзь паўзком. **19.** Мянушка легендарнага сабакі, які ў час Вялікай Айчыннай вайны вынес з поля бою каля 400 цяжкапараненых байцоў. **21.** Паўночны вецер. **22.** Спартыўная камандная гульня. **23.** Усё воднае покрыва Зямлі. **24.** Звяно гусеніцы танка, трактара.

**Адказы:**

**Па гарызанталі: 2.** Дружба. **6.** Армія. **8.** Вораг. **9.** Сумленне. **12.** Слава. **13.** Рота. **14.** Фланг. **15.** Вір. **16.** Жарт. **17.** Люты. **18.** Ода. **20.** Закон. **22.** Хата. **24.** Тарту. **25.** Рукавіца. **26.** Назад. **27.** Каска. **28.** Айчына.
**Па вертыкалі: 1.** Націск. **3.** Рымар. **4.** Банка. **5.** Агрэгат. **7.** Ясна. **8.** Верф. **10.** Балістыка. **11.** Камандарм. **17.** Лажанне. **19.** Мухтар. **21.** Норд. **22.** Хакей. **23.** Акіян. **24.** Трак.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Аляксандр ПЯТРОЎ.

# Усмешкі

## «Парада»

Жонка звоніць па мабільніку мужу:

— Іду з рынка. Нясу цяжкую сумку, дык патрэбна твая дапамога!

— А ты раскладзі ў дзве сумкі, табе будзе лягчэй, — раіць муж.

## Шчырае прызнанне

— Супрацоўнікі гавораць свайму начальніку, які вярнуўся з адпачынку:

— А мы вас так шчыра ўспаміналі кожны дзень, гаварылі: «Як добра, што Адам Пятровіч у водпуску!..»

## Варта падумаць

Жонка дае мужу грошы на пакупкі і папярэджвае:

— Калі хоць рубель прап'еш, я цябе заб'ю!

— Не спяшайся, — супакойвае муж. — Хіба ты забыла, якое дарагое цяпер пахаванне!

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 2 (1553), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.
Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 08.02.2018. Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,26. Тыраж 877 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.









Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ х 2.